ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD

POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 330-2036

Год. XXVIII, № 266 New York, June — Чырвень 1979 Vol. XXVIII, № 266

# ПРЫВІТАНЬНІ ТРЭЙЦЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ФЭСТЫВАЛЮ ВЫДАТНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ ДЗЕЯЧОЎ

**ГУБЭРНАТАР ШТАТУ НЬЮ ДЖЭРЗІ БРЭНДАН БЭРН праз асабістага прадстаўніка Стывэна Рычэра, Дырэктара Аддзелу Турызму штату, выдаў наступную праклямацыю:**

**Дзеля таго,** што шмат жыхароў беларускага паходжаньня ў нашым штаце зьяўляецца важнай складовай часткай усяго жыхарства й дзейнасьці штату, і

**Дзеля таго,** што жыхары штату беларускага паходжаньня адзначаюць сёлета 61-я ўгодкі Беларускае Народнае Рэспублікі, ня гледзячы на акупацыю іхнае бацькаўшчыны й бацькаўшчыны іхных бацькоў камуністычнай Расеяй, і

**Дзеля таго,** што гэта важна для жыхароў беларускага паходжаньня адзначыць іхную багатую культурную спадчыну ды загарантаваць пераданьне іхных культурных звычаяў і традыцыяў наступным пакаленьням, і

**Дзеля таго,** што гэты новы сэзон у Цэнтры Мастацтваў штату Нью Джэрзі пачынаецца паказам беларускае культуры й мастацтва,

**Дзеля гэтага,** я Брэндан Бэрн, Губэрнатар штату Нью Джэрзі абвяшчаю дзень 19 траўня 1979 году Днём Беларускага Фэстывалю ў штаце Нью Джэрзі.

**Губэрнатар штату**
**Брэндан Бэрн**
**Сакратар штату**
**Дональд Лан**

### БЕЛЫ ДОМ, ВАШЫНГТОН ТРЭЙЦЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ФЭСТЫВАЛЮ Ў АМЭРЫЦЫ

Прэзыдэнт Джымі Картэр перасылае свае найлепшыя пажаданьні шмат посьпехаў у Дні Фэстывалю. Важная справа ў Вашынгтоне не дазваляе яму прыбыць на Фэстываль. Прымеце гэтае тэлефанічнае прывітаньне з найлепшымі зычэньнямі Беларускаму Фэстывалю.

### СЭНАТАР ГАРЫСОН ВІЛЬЯМС, ШТАТ НЬЮ ДЖЭРЗІ:

Я горача вітаю ўсіх, хто прыехаў у штат Нью Джэрзі на Беларускі Фэстываль. Я вітаю Вас за Вашыя заўсёдныя стараньні захаваць азнакі й апрычонасьць беларускае спадчыны, каб будучыя пакаленьні Амэрыканцаў маглі ацаніць і зразумець калярытную беларускую культурную спадчыну.

Не зважаючы на даўгія гады савецкага панаваньня, дух **БЕЛАРУСІ** і ейнае імкненьне да незалежнасьці застаецца нязломным і ўсьцяж мацнее. Ваш Фэстываль сяньня яшчэ раз выклікае нашае захапленьне й запэўнівае нашае падтрыманьне ў змаганьні гэраічнага Беларускага Народу ды дапамагае нам трымаць позірк на гісторыю й багатую культуру, якую мусяць адзначаць усе. Найлепшых посьпехаў у гэтым важным і памятным дні!

### СЭНАТАР БОБ ДОЛ, ШТАТ КЭНЗАС:

Не зважаючы на 60-гадовыя брутальныя зьдзекі й спробы зьнішчыць самыя асновы беларускай апрычонасьці, Народ Беларускі не паддаўся гэтаму наступу ды моцна й упорыста трымаецца сваіх нацыянальных звычаяў і традыцыяў, якія для Беларускага Народу маюць асаблівае значаньне.

Утрыманьне гэтых беларускіх традыцыяў сяньня сымбалізуюць постаці гэткіхперадавікоў, як Міхась Кукабака, Іван Бузіньнікаў ды іншыя. Гэта якраз гэткім людзям ды іхнай упорыстасьці ў імкненьні здабыць духовую й фізычную свабоду гэты Фэстываль мусіць быць прысьвечаны.

Ніхто з нас не павінен быць спакойны, пакуль гэтыя адважныя людзі ня будуць свабоднымі.

Ніхто не павінен быць спакойным, пакуль Беларусь не адродзіць сваёй самастойнасьці, што назначаная Беларускаму Народу Богам і Гісторыяй. Дык і мы не забудзем нашых абавязкаў перад Свабодай.

Дык з Богам і найлепшымі пажаданьнямі!

### СЭНАТАР БІЛ БРЭДЛЕЙ, ШТАТ НЬЮ ДЖЭРЗІ:

Нажаль, не магу сяньня быць разам з Вамі на Фэстывалі. Аднак, у будучыні спадзяюся быць зь беларускай грамадой на Вашых урачыстасьцях. Шчырыя прывітаньні ўсім удзельнікам і прысутным на Трэйцім Беларускім Фэстывалі ў Амэрыцы!

### СЭНАТАР ДЖОН ГЛЭН, ШТАТ ОГАЁ:

Сэнатарскія абавязкі вымагаюць шмат працы, і я думаю, што мы ўсе хацелі-б, каб тыдні й працоўныя дні былі даўжэйшыя! Важныя справы ў Сэнаце стрымоўваюць мяне ад прысутнасьці на Трэйцім Беларускім Фэстывалі.

Вітаю Вас, жадаю посьпеху ды, калі ласка, паведамляйце мяне й маіх дараднікаў, калі Вам будзе патрэбная мая дапамога.

### СЭНАТАР ЧАРЛЗ ПЭРСЫ, ШТАТ ІЛІНОЙ:

Найлепшыя пажаданьні Трэйцяму Беларускаму Фэстывалю — паказьніку беларускае культуры ў Амэрыцы!

### СЭНАТАР ДЖОН ГАЙНЦ, ШТАТ ПЭНСЫЛЬВЭНІЯ:

Вашая тут прысутнасьць — гэта паказьнік і сьветчаньне ня толькі вялікае жывучасьці нацыянальнасьцяў Амэрыкі, але гэта таксама сьветчаньне моцы й адвагі Беларускага Народу.

„НЯХАЙ БУДЗЕ ВЕЧНАЙ НАШАЯ СУПОЛЬНАЯ ПРАЦА НА КАРЫСЬЦЬ СВАБОДЫ ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ НА ЗЯМЛІ!" (сказ гэты ў прывітаньні Сэнатара быў напісаны пабеларуску).

### СЭНАТАР ГОЎАРД МЭТЦЭНБАЎМ, ШТАТ ОГАЁ:

Паважаны Сп. Кіпель! Гэтым перасылаю і прашу Вас перадаць мае прывітаньні ўдзельнікам і арганізатарам Фэстывалю ды ўсім Амэрыканцам беларускага паходжаньня ў іхных імкненьнях утрыманьня багатае беларускае культурнае спадчыны ў Амэрыцы. Даю таксама маё падтрыманьне Амэрыканцам беларускага паходжаньня за тое, што яны занялі становішча за падтрыманьне тых, хто выступіў у Савецкім Саюзе й іншых краёх у вабароне Людзкіх Правоў.

### СЭНАТАР ЯКУБ ДУСАВІЦ, ШТАТ НЬЮ ЁРК:

Шчырыя прывітаньні Трэйцяму Беларускаму Фэстывалю ў Амэрыцы!

### СЭНАТАР ПІТЭР ДОМІНІЧЫ, ШТАТ НЬЮ МЭКСЫКО:

Перасылаю мае пажаданьні Трэйцяму Беларускаму Фэстывалю ў Амэрыцы. Ваш Фэстываль Беларускае Культуры — гэта частка нашае Амэрыканскае Культуры. Ваш Фэстываль прыпамінае нам, што нашыя карэньні зьвязаныя із шматлікімі народамі, у тым ліку й з Народам Беларускім.

### СЭНАТАР ТЭД КЭНЭДЫ, ШТАТ МАСАЧУСЭТС:

Шчыра вітаю Беларускі Фэстываль у Амэрыцы ды жадаю посьпеху ў Вашай працы!

### СЭНАТАР ДАНІЕЛЬ МОЙНІГАН, ШТАТ НЬЮ ЁРК:

Вітаю Трэйці Беларускі Фэстываль у Амэрыцы!

### КАНГРЭСМЭН МЭТ'Ю РЫНАЛЬДО, НЬЮ ДЖЭРЗІ:

Я заўсёды падзіўляю дзейнасьць Беларусаў-Амэрыканцаў і, як адзін з Вашых верных прыяцеляў, вітаю Вас з нагоды Трэйцяга Беларускага Фэстывалю. Гэта якраз дзякуючы Вашай дзейнасьці Задзіночаныя Штаты Амэрыкі сталіся галоўнай сілай на шляху адраджэньня права Беларускага Народу, а таксама правоў іншых паняволеных народаў. Я ўвесь час быў у авангардзе тых, што падтрымлівалі Вашыя дыпляматычныя й адміністрацыйныя дамаганьні й буду ў далейшым памагаць Вам.

### КАНГРЭСМЭН ДЖЭК КЭМП: НЬЮ ЁРК:

Беларускі Народ падзяляе сваю спадчыну з Новым Сьветам ад 17-га стагодзьдзя. І ўклад Беларускага Народу ў Амэрыканскую спадчыну ўсьцяж узрастаў, калі тысячы беларускіх імігрантаў уцякалі ад пераследваньня ў Эўропе ў 19-м і 20-м стагодзьдзях. Тут яны знайшлі свабоду й могуць бязь ніякага прыгнёту Савецкае дзяржавы, які пануе сяньня на Беларусі, адзначаць сваю нацыянальную спадчыну.

### КАНГРЭСМЭНКА БАРБАРА МІКУЛЬСКІ, МЭРЫЛЭНД:

Будучы польскага паходжаньня, я асабліва цаню й цешуся з гэткіх нагодаў, як Беларускі Фэстываль. Усе Амэрыканцы ўзбагачваюцца гэткімі падзеямі й умацоўваюцца культурна за кошт шматлікіх народаў. Беларусы-Амэрыканцы павінны быць асабліва гордыя ў гэты дзень і асабліва гордыя за свой уклад у амэрыканскую культуру. Бязь іхнага ўкладу й адданасьці фундамантальным прынцыпам Задзіночаных Штатаў ды адданасьці й пашане беларускай спадчыне — мы ўсе былі-б бяднейшыя. Мае шчырыя прывітаньні Фэстывалю!

### КАНГРЭСМЭН ПІТЭР РОДЫНО, НЬЮ ДЖЭРЗІ:

Найшчырэйшыя прывітаньні ў гэты дзень Беларускаму Фэстывалю!

### КАНГРЭСМЭН ДЖОЗЭП АДДАБО, НЬЮ ЁРК:

Вітаю Беларускі Фэстываль!
Ваш заўсёды сябра.

### КАНГРЭСМЭНКА МІЛІЦЭНТ ФЭНВІК, НЬЮ ДЖЭРЗІ:

Працы ў Кангрэсе шмат. Не магу прыехаць. Вітаю Дзень Беларускае Культуры!

### КАНГРЭСМЭН ЭДВАРД ДЭРВІНСКІ, ІЛІНОЙ:

Вітаю Беларусаў-Амэрыканцаў за працу дзеля адраджэньня Свабоды ў краю іхных бацькоў. Хай Беларускі Фэстываль у Амэрыцы напамінае ўсім, што дух Свабоды жыве ў сэрцах Беларускага Народу, не зважаючы на камуністычнае паняволеньне.

(Заканчэньне на 5-ай бач.)

## З ВЫСТАВАК НАРОДНАГА МАСТАЦТВА




Стоішча з ручнымі мастацкімі вырабамі Беларусаў Чыкага на Фэстывалі

Фота Алекса Сільвановіча



Паказ абраду Дажынак на Фэстывалі: дзяўчына з апошнім снапом

Фота Алекса Сільвановіча



Вучаніцы беларускае школы Лора Рагалевіч із Саўт Рывэру (зьлева) й Вольга Трылер зь Нью Ёрку (справа) любуюцца беларускімі паясамі на Фэстывалі

Фота Пат. Фераіолі

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.


# ВЫСНОВЫ

Трэйці Беларускі Фэстываль стаўся мінуўшчынай. Вось некаторыя падсумаваньні-высновы, якія трэба зрабіць з гэтае важнае падзеі:

Мы, Беларусы Амэрыкі й Канады, можам праводзіць масавыя імпрэзы з удзелам колькіх тысячаў асобаў. Як паказалі тры Фэстывалі, колькасьць загадзя прадаваных білетаў з году на год узрастала. Гэта сьветчыць, што мы можам дзеіць **супольна** ня толькі ў роўніцы індывідуальнага супрацоўніцтва, але й супрацоўніцтва міжарганізацыйнага. Сёлетні Фэстываль быў праведзены сіламі арганізацыяў моладзі й вэтэранаў, прыхільнікамі БНР і БЦР, сябрамі Кангрэсавага Камітэту, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Задзіночаньня Беларусаў штату Іліной, прыхаджанамі розных царкоўных юрысдыкцыяў. Усе разам зыйшліся на ніве канкрэтнае працы й канкрэтнае справы ў імя Беларусі. У гэтым — нашае найбольшае дасягненьне.

Фэстывалі становяць мост ня толькі паміж старымі й маладымі, але й паміж рознымі ў часе прыбыцьця ў Амэрыку пакаленьнямі беларускае эміграцыі. На сёлетнім Фэстывалі быў Беларус, што прыехаў у Амэрыку ў 1912 годзе, і былі людзі, што прыехалі апошнімі гадамі. Цімала й Амэрыканцаў другога ды трэйцяга пакаленьня з радасьцяй пазналі на Трэйцім Беларускім Фэстывалі свае этнічныя вытокі, свае карані.

Гэткія масавыя імпрэзы пад сілу нам і ў будучыні — зразумела, пры ўмове, што мы будзем рабіць іх **усе разам.**

Масавы характар нашых імпрэзаў, нат чыста культурных, прыцягвае ўвагу палітыкаў мясцовага, штатавага й фэдэральнага маштабаў. Палітыкі ў дэмакратычнай сыстэме йдуць туды, дзе маса, рэагуюць на масу, лічацца з масай. **Масавасьць** нашых імпрэзаў — гэта **вышэйшы палітычны ўзровень** нашае дзейнасьці на карысьць Беларусі.

Пра гэта вельмі важна памятаць, рыхтуючыся цяпер да 4-га Беларускага Фэстывалю.

# СЯБРЫ БЕЛАРУСКАГА ФЭСТЫВАЛЬНАГА КАМІТЭТУ 1979 ГОДУ

Byelorussian Heritage Festival
Saturday May, 19 1979
Garden State Arts Center

Вітаўт Кіпель — старшыня; сябры: Нона Махнюк, Жорж Наумчык, Юрка Азарка, Ірэна Рагалевіч, Галіна Русак, Ксавэры Барысавец, Ірэна Цупрык, Ірэна Каляда, Вольга Лукашэвіч, Віла Леўчук, Алекс Мартыновіч, Ала Романо, Янка Запруднік, Аўген Лысюк, Віталі Цярпіцкі, Васіль Русак, Міхась Бахар, Францк Бартуль, Аўген Дубяга, Аўген Дубовік, Сафія Лэйк, Сяргей Рагалевіч, Мікола Заморскі, Фрэнк Романо, Лена Войтэнка, Вера Бартуль, Валерыя Гарох, Сяргей Касьцюк, Маня Нэстар, Вячаслаў Сянькоў, Лявон Шурак, Вячаслаў Станкевіч, Ніна Запруднік, Тамара Кольба, Зора Кіпель Надзя Кудасава, Ліза Літаровіч, Алег Махнюк, Валя Рагалевіч, Алекс Сільвановіч, Раіса Станкевіч, Вольга Трылер, Жорж Арцішэнка, Боб Цупрык, Альгерд Кажура, Віктар Васілеўскі, Надзя Арцішэнка, Вера Арцішэнка, Аня Бартуль, Аня Бойчук, Ніла Цярпіцкі, Ліда Данілюк, Рагнеда Гутырчык, Алеся Кіпель, Юзік Крывенька, Ірэна Касьцюк, Юрка Кіпель, Люда Русак, Вера Запруднік, Ната Русак, Язэп Арцюх, Іван Бруцкі, Лянгіна Брылеўская, Аня Хрыстовіч, Юрка Драздоўскі, Сяргей Грамыка, Кастусь Калоша, Ніна Кіт, Антон Маркевіч, Васіль Мельяновіч, Юзэфа Найдзюк, Аўген Нэстар, Юрка Корчык, Мікола Пруські, Васіль Пунтус, Вера Рамук, Таіса Русак, Аркадзь Рутман, Ева Пашкевіч, Галіна Павэлс, Алекс Шастак, Валентына Шудзейка, Пётра Захаркевіч, Нікодым Жызьнеўскі.

# ТРЫЦЦАЦЬ ТРЭЙЦІ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

У сыботу 12 травеня адбыўся ў Беларускім Доме ў Лёндане чародны 33-ці Агульны Гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ). Пасьля адчыненьня й прывітаньня Зьезду старшыня ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ Янка Міхалюк папрасіў прысутных хвілінай цішыні ўшанаваць памяць а. Язэпа Гэрмановіча й Максіма Рудзя, што адыйшлі ў вечнасьць. У склад Прэзыдыюму Зьезду былі выбраньня: сп. Я. Міхалюк — за старшыню й сп. сп. А. Здановіч і П. Наваро — за сакратароў. Зьезд зацьвердзіў пратакол папярэдняга Зьезду, які быў прачытаны сп. А. Лашуком.

На Зьезьдзе былі заслуханыя наступныя справаздачы: Галоўнай Управы ЗБВБ, управаў Аддзелаў ЗБВБ, Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ, Адміністратараў Беларускіх Дамоў у Брадфардзе, Лёндане й Манчэстары, Аўдытара ЗБВБ і Нагляднай Рады. З усіх справаздачаў і дыскусыяў над імі выявілася, што ЗБВБ выконвае вялікую й паважную працу на карысьць агульнай беларускай справы. Асабліва шмат увагі прысьвячаецца папулярызаваньню беларускай незалежніцкай ідэі на міжнародным грунце. Зьезд сьцьвердзіў, што Галоўная Ўправа ЗБВБ поўнасьцяй вывязалася з ускладаных на яе абавязкаў і прызнаў ёй абсалюторыюм з падзякаю.

Новая Галоўная Ўправа ЗБВБ на наступную кадэнцыю была выбраная ў наступным складзе: Старшыня — Я. Міхалюк, Заступнік Старшыні — А. Здановіч, Сакратар — П. Наваро, Скарбнік — П. Асіповіч, Сябры Ўправы — А. Лашук і Я. Сяўковіч. Зьезд выслаў прывітальны ліст новавыбранаму брытанскаму ўраду.

**П. Н.**

# ПРЫВІТАНЬНІ ТРЭЙЦЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ФЭСТЫВАЛЮ

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

Я ведаю, на колькі моцнае жаданьне Беларускага Народу быць свабодным, не зважаючы на даўгое паняволеньне, накінутае яму расейскім камунізмам. Таму ўважаю, што чарга за намі прызнаць адвагу імкненьняў Беларускага Народу ды запэўніць яго ў нашым наважаным падтрыманьні ягоных імкненьняў, каб дасягнуць найвышэйшае мэты — НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ!

**ПРЫВІТАНЬНЕ ЗЬ БЕЛАРУСІ:**

. . . Яшчэ з большай радасьцяй я прачытаў праграму Трэйцяга Беларускага Фэстывалю ў Нью Джэрзі. Божа, як-жа ўсьцешылася маё сэрца, што далёка ад роднай старонкі нашай, за акіянам, адбываюцца гэткія цудоўныя ўрачыстасьці, а на іх чуецца нашая матчыная мова, пяюцца нашыя беларускія песьні, красуюцца народныя касьцюмы й можна навет паласавацца нашымі нацыянальнымі стравамі. Значыць і там, у вялікай краіне сьвету жыве й працуе нашая беларускасьць, частка нашай Бацькаўшчыны!.. Гэта сьвята беларускай культуры на амэрыканскай зямлі... Хоць я не змагу прысутнічаць на гэтым сьвяце асабіста, затое думкамі й пачуцьцём я буду разам з Вамі ў гэты ўрачысты Дзень 19 травеня. Няхай-жа ён будзе сонечны, цёплы й радасны для ўсіх!.. (Імя й прозьвішча аўтара прывітаньня із зразумелых прычынаў не падаём — Рэд.).

# КАНФЭРЭНЦЫЯ ЭЎРАПЕЙСКІХ СЭКТАРАЎ РАДЫ БНР

21 красавіка сёлета ў Лёндане (Ангельшчына) адбылася канфэрэнцыя эўрапейскіх сэктараў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта ўжо другая такая канфэрэнцыя, скліканая зь ініцыятывы ейнага старшыні д-ра В. Жука-Грышкевіча. (Першая нарада прадстаўнікоў эўрапейскіх сэктараў Рады БНР адбылася, таксама ў Лёндане, 15 красавіка 1972 году).

У сёлетняй канфэрэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі ад сэктараў у Вялікабрытаніі (Лёндан, Манчэстар і Брадфард), Бэльгіі, Францыі й Нямеччыны, а таксама прадстаўнік Рады БНР у Гішпаніі. Канфэрэнцыя мела інфармацыйна-кансультацыйны характар. Яна пачалася кароткай малітвай Уладыкі Часлава Сіповіча і хвілінай цішыні ў знак пашаны памяці радных, што адыйшлі нядаўна ў вечнасьць (палкоўнік Аўген Трусаў і інж. Мікола Гарошка).

Пасьля прывітальнага слова старшыні Рады БНР і абраньня сакратара канфэрэнцыі (была выбраная аднагалосна д-р Раіса Жук-Грышкевіч), д-р В. Жук-Грышкевіч запрапанаваў парадак дня канфэрэнцыі зь пяцёх пунктаў, які й быў адобраны ўдзельнікамі амальшто бязь зьменаў. Затым ён перайшоў да іх разгляду, пачынаючы ад інфармацыі пра сучасны стан Рады БНР. Ён адзначыў, што як і ў дзейнасьці любога дзяржаўнага арганізму, у дзейнасьці Рады БНР ёсьць плюсы й мінусы. Гэтыя апошнія выклікаюцца галоўным чынам з прычынаў часта ад нас незалежных, такіх, як, прыкладам, расьцярушанасьць нашай эміграцыі й радных па розных краінах і кантынэнтах, факт, які ня можа не адбіцца нэгатыўна на дзейнасьці Рады й ейных органаў. Аднак у параўнаньні із станам Рады БНР перад Х-ай сэсіяй Рады БНР у 1968 годзе, сытуацыя зьмянілася на лепшае. За гэты пэрыяд ажывіліся сэктары Рады БНР і шмат было зроблена ў розных галінах нашага палітычнага, культурнага й грамадзкага жыцьця, а таксама й на міжнароднай арэне.

Сярод недахопаў, старшыня Рады адзначыў як галоўныя: адсутнасьць экзэкутывы Рады БНР і свайго прэсавага органу. У сувязі з гэтым апошнім пытаньнем адбылася дыскусыя, у часе якой былі выказаныя розныя мяркаваньні й зробленыя канкрэтныя прапановы. Аднэй зь іх было аднаўленьне газэты „Бацькаўшчына", выданьне якой было спыненае ў 1966 годзе. („Бацькаўшчына", між іншага, — гэта адзіная беларуская эміграцыйная газэта, пра якую, хоць і адмоўна, згадвае навет у сваім 2-ім томе на бачыне 189 „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя", пры чым згадвае яе, як „орган Рады БНР").

На канфэрэнцыі, апрача кароткіх справаздачаў паасобных прадстаўнікоў эўрапейскіх сэктараў Рады БНР, абмяркоўваліся таксама іншыя пытаньні, як ажыўленьне дзейнасьці сэктараў, дзейнасьць Радыя „Свабода" й пытаньне беларускай нацыянальнай тэматыкі беларускай сэкцыі Радыя, дзейнасьць сяброў Рады на міжнароднай арэне й іншыя. Было выказанае пажаданьне, каб з мэтаю больш скаардынаванай дзейнасьці й дзеля ўтрыманьня больш цесных кантактаў часьцей склікаліся сустрэчы эўрапейскіх сэктараў. Заступнік старшыні Рады БНР на Эўропу Ўладзімер Бортнік паінфармаваў пра ўдзел радных у канфэрэнцыі швайцарскай арганізацыі „Канфэрэнцыя Людзкіх Праваў і Самавызначэньня", якая адбылася ў студзені мінулага году ў Люцэрне ды пра рэакцыю ў БССР на выступленьні беларускага дэлегата. Пра дзейнасьць Беларускай Сэкцыі Радыя „Свабода" паведаміў д-р В. Сенькевіч, які адзначыў тыя цяжкасьці, што існуюць часамі ў штодзённай працы, ды падчыркнуў патрыятычнасьць і самаахвярнасьць ейных супрацоўнікаў.

На заканчэньне было закранута пытаньне лятувіскіх самвыдавецкіх матарыялаў, якія нядаўна трапілі на Захад і ў якіх гаворыцца пра „дыскрымінацыю Лятувісаў у БССР". Матарыялы гэтыя актыўна пашыраюць лятувіскія эмігранты, якія выкарыстоўваюць іх для сваіх палітычных мэтаў. У рэпартажы, азагалоўленым „Палажэньне Лятувісаў Беларускай ССР", у прыватнасьці кажацца, што з мэтай дэнацыяналізацыі Лятувісаў у БССР, ім забараняецца мець свае школы, займацца культурнай дзейнасьцяй, мець сваіх сьвятароў і г. д. (згаданы Рэпартаж быў выдадзены самвыдавецкім спосабам у Вільні й датуецца 1978 годам). Прысутныя на канфэрэнцыі былі азнаёмленыя з тэкстам зацемкі-камэнтару, якая была перададзеная Радыем „Свабода" на бацькаўшчыну і ў якой быў дадзены адказ на закіды лятувіскіх дысыдэнтаў. У згаданай зацемцы-камэнтары, між іншага, адзначалася, што палітыку нацыянальнай дыскрымінацыі савецкія ўлады праводзяць ня толькі ў дачыненьні да лятувіскае меншыні ў Беларусі. Такую-ж дыскрымінацыю церпіць і беларуская меншыня ў ЛітССР, дзе навет паводля савецкага перапісу жыхарства 1970 году 45.5 тыс. асобаў падалі сваю нацыянальнасьць як „беларускую". (Паводля таго-ж самага перапісу ў Беларускай ССР усяго каля 8-мі тысячаў чалавек падалі сваю нацыянальнасьць, як „лятувіскую"). У ЛітССР існуюць, апрача лятувіскіх, таксама расейскія й польскія школы, аднак там няма беларускіх, як таксама няма ніякіх беларускіх друкаваных выданьняў, ніякіх беларускіх грамадзкіх і культурных арганізацыяў.

Перад закрыцьцём канфэрэнцыі было пастаноўлена выслаць на Монтэ Касына беларускую дэлегацыю, каб прыняць удзел у сьвяткаваньні 35-ых угодкаў гэтае бітвы, у якой удзельнічалі таксама шматлікія Беларусы, частка якіх там загінула (яны пахаваныя на мясцовых вайсковых могілках). У сьвяткаваньні, якое адбудзецца 18 травеня, будуць прыймаць удзел прадстаўнікі ад усіх народаў, якія ўдзельнічалі ў змаганьні, а таксама Папа Ян Павел Другі, які адправіць Багаслужбу за загінуўшых і за справу міру на зямлі.

**В. Сенькевіч**

# ЗЬЕЗД ЗБК І СЬВЯТА Ў ТАРОНЬЦЕ

У сыботу 12 травеня сёлета адбыўся ў Тароньце чародны двухгадовы Зьезд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў Канады. Адчыніў Зьезд у залі БР-ГЦ старшыня Галоўнай Управы ЗБК В. Касьцюкевіч, запрапанаваўшы хвілінай цішыні ўшанаваць памяць сяброў ЗБК, што ў міжчасе адыйшлі ў вечнасьць. Выбраная мандатная камісія ў складзе М. Ганька, сп-ні І. Сурвілы й А. М. праверыла паўнамоцтвы дэлегатаў. Зьезд вёў сп. М. Ганько з дапамогай сп-ні І. Сурвілы й д-ра Р. Жук-Грышкевіч.

У справаздачах ад аддзелаў прысутныя даведаліся пра прыемную справу з аддзелу ў Атаве. Сп-ня І. Сурвіла паінфармавала пра трохдзённы фэстываль этнічных групаў, што мае адбыцца ў Атаве 1-3 чырвеня сёлета й у якім прымаюць удзел і Беларусы. Прысутныя даведаліся таксама, што аджыў і аддзел у Монтрэалі. Сёлета там было наладжанае сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, якое мела вялікі посьпех між нашых суродзічаў. Як звычайна, не застаўся без актыўнасьці й аддзел у Садбуры.

Зь фінансавае справаздачы вынікла, што летась, галоўна дзякуючы Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Тароньце, прыбыткі ЗБК перавысілі суму $ 3,400.00. З гэтага адна тысяча даляраў была прызначаная на рамонт царкоўна-грамадзкага будынку.

У сувязі з тым, што савецкі ўрад зь днём першага ліпеня сёлета ўвядзе ў жыцьцё закон, на моцы якога ўсе ўцекачы з акупаваных цяпер бальшавікамі тэрыторыяў і іхныя дзеці, навет народжаныя ў Канадзе, стануцца савецкімі грамадзянамі, Зьезд прыняў тэкст ліста-пратэсту да ўраду Канады, каб зьвярнуў увагу на гэты нялюдзкі закон і запратэставаў супраць Масквы.

У склад новай Галоўнай Управы ЗБК Зьезд выбраў сп. В. Касьцюкевіча за старшыню й д-ра Р. Жук-Грышкевіч і д-ра Б. Рагулю за сяброў управы. У Наглядную Раду ўвайшлі: К. Акула, А. Маркевіч і А. Ж., у склад Сяброўскага Суду А. Протас, Вольга Грыцук і Л. Рагуля.

У нядзелю 13 травеня ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага служыў Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай, які ў сваім казаньні прысьвяціў увагу маці, бо гэта быў Дзень Маткі, і нашай Маці-Беларусі. Пасьля Багаслужбы ў прыцаркоўнай залі адбылася бясэда, прысьвечаная Сьв. Кірылу Тураўскаму, Патрону Парахвіі, пра жыцьцё й выдатную дзейнасьць якога ўзноў гаварыў Уладыка Мікалай.

**К. Акула**

# ЗАКЛІК—ПРОСЬБА

Дарагія Суродзічы!

Шмат было гутаркі, а ад часу да часу былі й націскі на япіскапаў, каб у службах ужывалі родную мову. А таксама на Саборы БАПЦ 29 чырвеня 1972 году разважалася пытаньне роднае мовы ў багаслужбах.

З Божае ласкі ўжо здадзены ў друк служэбнік. Зьмест ягоны наступны: 1. Трэба ведаць — тлумачэньне для сьвятароў і міранаў; 2. Сустрэча архірэя — калі служба архірэйская; 3. Праскамідыя; 4. Сьв. Літургія Яна Златавуснага й Васіля Вялікага; 5. Малітвы сьвятарства суслужнікаў у Сьв. Літургіі; 6. Водпусты; 7. Пракімэны; 8. Трапары.

Служэбнік мае выйсьці з друку прыблізна ў ліпені сёлета. Гэта будзе новая падзея ў нашай гісторыі, бо ўпяршыню друкуецца служэбнік на жывой роднай беларускай мове. Прыблізны кошт друку — каля 3.000 даляраў. Гэта ёсьць не малая сума й яе трэба зыбраць. Калі будзе выручка за служэбнік, дык пойдзе яна на выданьне напрастольных Евангельля й Апостала.

Дарагія Суродзічы! Я паслухаў Вашага голасу й адважыўся выдаць згаданы служэбнік. Зьвяртаюся да Вас із заклікам-просьбай прыйсьці насустрач сваімі ахвярамі. Прысылайце свае ахвяры банкавымі вэксалямі (чэкамі) на імя Парахвіі: Belarusen Autocephalic Orthodox Church Parish of St. Kiryla of Turau. 524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont. M6H 3W7. Canada, зазначаючы, што ахвяра на служэбнік.

Госпад і Збаўца наш Ісус Хрыстос няхай мае Вас у Сваёй апецы ды ахіне ўсіх Вас Сваёй ласкай, любоўю й міласэрдзем!

**✠ Архіяпіскап Мікалай**

# ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА

## ДАЎНЕЙ І ЦЯПЕР

У перапоўненых цэрквах урачыста сьвяткаваўся дзень парахвіяльнага Патрона на бацькаўшчыне. Ад дзяцінства зафіксаваліся ў памяці шмат у каго з нас вобразы й зьявы калісьці перажытага.

Памятаю я, як із сяброўкамі дзяцьмі выбягала з раніцы ў нядзелю на недалёкі ад нашае хаты Слуцкі шлях пад Нясьвіжам, абсаджаны з абодвых бакоў высокімі бярозамі, каб паглядзець на нязвычайны рух на гэтым шляху ў дзень парахвіяльнага сьвята. Пасьвяточнаму апранутыя жанчыны й дзяўчаты, а таксама й мужчыны, ішлі басанож, ехалі на фурманках. Усе сьпяшаліся ў нашую нясьвіскую царкву. Шмат было школьнае моладзі, у бальшыні навучэнцаў настаўніцкай сэмінарыі, што сыстэматычна наведвалі царкву. І гэтая моладзь у васноўным і складала выдатны прафэсыянальны царкоўны хор.

Я любіла нашую царкву, асабліва калі была яна перапоўненая вясковым людам, прыкладам, на Ўсеночнай або на Каляды ці падчас парахвіяльнага сьвята. Я любіла, як мігцяць шматлікія сьвечкі перад абразамі. Я навет мела сваю ўлюбленую ікону Божае Маці ў царкве, якую ад маленства ў сакрэце прысабечыла, як сваю. Вісела яна побач багата аздобленай у залатым уборы й кароне на галаве іншай іконы Божае Маці. Мая ікона была даступная, зразумелая для мяне, спад сіняй хусьцінкі, накінутай на галаву, ласкава глядзелі на мяне й крыху сумна, а часам з дакорам ейныя вочы зусім гэтак, як пазірала на мяне й мая мама. Так я й расла пры тэй царкве, пазьней ужо як вучаніца расейскай гімназіі, а яшчэ пазьней дзяржаўнай польскай гімназіі. І ўсё яшчэ стаяла я на тым месцы перад маёй улюбленай іконай у часе багаслужбаў.

Быў, праўда, і сьвятар у тэй царкве, хоць часамі ягонай прысутнасьці я й не заўважала. Хіба з паходжаньня быў ён тутэйшым Беларусам, але, як дасьціпна кажа прымаўка, „свая костка, але чужым мясам абрасла й ваняе". Дзеці гэнага сьвятара ўважалі сябе за Расейцаў, але малодшыя ў васяродзьдзі Беларусаў у тэй, хай сабе на расейскай мове гімназіі, хісталіся, ня ведаючы, хто яны. Сьвятар аўтаматычна адпраўляў службу, нас ён ня ведаў ці не хацеў ведаць, аўтаматычна нас спавядаў, ня думаючы й блытаючы свае пытаньні ды не забываўся нам „грэшным" вызначыць за пакуту звычайную мерку 25 зямных паклонаў, ці павышаную 40, 50 ці яшчэ больш. Часам памыліўшыся моцна крыўдзіў навет вельмі добрых і рэлігійных дзяўчат, загадваючы ім аўтаматычна 50 ці й больш паклонаў. Сьвятар хацеў бачыць, ці ягоны загад выкананы й таму тыя паклоны даводзілася адбіваць адразу-ж на ягоных вачох. Плакала тая пакрыўджаная вучаніца, а хлопцы хіхікалі й лічылі гэныя паклоны. Мы, сьветкі гэтага паказу, ня ведалі, што нам рабіць, ці плакаць, ці сказаць сьвятару пра ягоную памылку, ці сьмяяцца.

Аднойчы выпала нагода заглянуць у дом сьвятара, дзе адбываўся славуты царкоўны банкет — фэст. Паміж маіх сябровак, хоць і малодшая за мяне, была й пападзянка Ларыса. Яна й падгаварыла мяне прыйсьці да яе ў дзень парахвіяльнага банкету. Я згадзілася. Лара не сьпяшалася весьці мяне ў хату, мы доўга гулялі зь ёй у садзе, бегалі й гайдаліся. Я ўжо хацела зь ёй разьвітацца, тады яна павяла мяне ў хату. ціхенька адчыніла дзьверы й шапнула: Глядзі! А ў пакоі было шумна й панаваў гармідар. Некаторыя пяялі, іншыя ў такт пляскалі ў далоні, яшчэ іншыя прабавалі танцаваць, што ім ня вельмі ўдавалася: яны, пачырванелыя, моцна хісталіся. Нашае сяброўства з Ларай пасьля гэтага абарвалася, але адмоўнае ўражаньне ад гэнае вясёлае бяседы ў мяне надоўга засталося.

Але вось дзесьці на Беларусі бывала й зусім інакш, хай сабе й ня часта. Бывала йнакш перадусім там, дзе сьвятаром быў Беларус, сьведамы й дзейны. Пра тых беларускіх сьвятароў патрыётаў перахавалі памяць іхныя вучні прыхаджане ці наагул знаёмыя. Гэтак я чула ад сп. Антона Шукелайця з Ашмяншчыны, якое незабыўнае ўражаньне на яго падлетка рабілі царкоўныя пропаведзі на беларускай мове сьв. п. а. Мікалая Лапіцкага, калі ён напачатку сваёй сьвятарскай дзейнасьці знаходзіўся ў Ашмяне. У ліку слухачоў ягоных беларускіх казаньняў былі, як і сам. сп. Шукелайць, і каталікі, якія зь вялікай пашанай ставіліся да беларускага патрыёты-сьвятара.

Іншы знаёмы зь Нью Ёрку пры нагодзе згадваньня нядаўна памерлага сьв. пам. а. Пралата Татарыновіча расказаў, што ён, калі вучыўся ў Баранавічах у пачаткавай польскай школе, часта бег, каб далучыцца да вучняў каталікоў, якіх на дварэ пад адкрытым небам вучыў беларускіх песьняў малады тады пачынальнік сьвятарскае дзейнасьці а. Пётра Татарыновіч.

З майго собскага дасьветчаньня: мне раз давялося прыняць удзел пры абходзе каплічак на Кальварыі пад Вільняй, калі гэтую пілігрымку вёў ксёндз Адам Станкевіч. Ягоныя прамовы-казані пры кажнай із звыш трыццацёх кальварыйскіх каплічках былі пэрламі прыроджанага красамоўства.

* * *

Якімі-ж шчасьлівымі мы павінны быць сяньня на нашых парахвіяльных сьвятах у сваіх беларускіх цэрквах, ачоленых і абслугоўваных нашымі беларускімі сьвятарамі. Шчасьлівымі, што маем сваю аўтакефальную праваслаўную беларускую царкву, ачоленую беларускім патрыётам Мітрапалітам Андрэем. Ці-ж мы паступова забыліся ўжо, зь якой ахвярнасьцяй і натхненьнем мы будавалі нашае царкоўнае жыцьцё на чужыне ў той час, калі навет нашыя вядучыя герархі, прыбылыя з бацькаўшчыны разам з намі, тут на чужыне нас пакінулі, перайшоўшы ў расейскую зарубежную царкву? Не, мы не забыліся, таму й нашыя царкоўныя сьвяты вельмі радасныя.

Вось гэтак адчувалі мы ўсе, што зыбраліся 6 травеня на сьвята свайго Патрона Сьв. Кірылы Тураўскага ў саборы ягонага імя ў Брукліне пры Атлянтык эвэню 401. Гэтым разам сьвята адзначылі дзьве суседнія парахвіі: у Нью Ёрку з нашым сьвятаром Расьціславам Войтанкам і парахвія з Гайлэнд Парку, ачоленая а. Аляксандрам Яноўскім. Прыехаў у Нью Ёрк і настаяцель парахвіі Сьв. Тройцы ў Дораты а. пратаярэй Карп Стар разам з матушкай.

Урачыстую Літургію адслужыў а. Карп, выдатна пяяў царкоўны хор, падмацаваны харыстымі з Гайлэнд Парку й магутным басам сьпявака - артыстага Пётры Конюха. Прыслужвалі дзеці. Наймалодшы зь іх 7-мігадовы сынок царкоўнага старасты з Гайлэнд Парку Віктара Лосіка. Ён ужо чацьверты год, як прыслужвае ў царкве. І ён не адзін у гэтай парахвіі, а ёсьць яшчэ колькі такіх малых прыслужнікаў у Гайлэнд Парку, што выдатна ўзбагачваюць Багаслужбы.

Пасьля Царкоўнае Службы адбыўся супольны банкет. Усе разам: сьвятары й прыхаджане аднэй дружнай сям'ёй разьмясьціліся за сталамі. Шмат было прамоваў. Смачная была ежа.

Першым прамаўляў старшыня Царкоўнай Рады ньюёркаўскай парахвіі Аляксандар Міцкевіч. Ён падчыркнуў важнасьць цягласьці нашай хрысьціянскай традыцыі, якую ёсьць нашым абавязкам перадаць наступнаму пакаленьню. Толькі свая нацыянальная царква зможа ўтрымаць беларускую эміграцыю моцнай і творчай. А ў сваёй прамове а. Войтанка пацьвердзіў, што, не зважаючы на малы лік прыхаджан, нашая царква ў Нью Ёрку сымбалізуе вялікія дасягненьні пачынальнікаў царкоўнага жыцьця ў Амэрыцы. Тут змагаўся за нацыянальную царкву а. Хведар Данілюк і Ўладыка Васіль, а гэты будынак быў першым беларускім царкоўным будынкам на амэрыканскім кантынэньце.

Пратаярэй а. Карп Стар вось ужо дзясяты раз на нашым парахвіяльным сьвяце. Сп. Барыс Данілюк ад Царкоўнай Рады прывітаў жанчынматак зь іхным сьвятам Дня Маткі, якое прыпадае 13 травеня, і запрапанаваў прапяяць ім „Шмат год!" Сп. Міхась Казьлякоўскі выказаў сваё задаваленьне, што большая група Беларусаў зьбіраецца разам. Др. В. Кіпель інфармаваў пра Трэйці Беларускі Фэстываль у Нью Джэрзі. Сп. Антон Шукелайць падчыркнуў сталае супрацоўніцтва Царквы з арганізацыяй БАЗА, у прыватнасьці Мітрапаліта Андрэя, які на ўсе імпрэзы й Кангрэсы БАЗА прысылае сваё багаслаўленьне.

Бяседа прайшла ў радасным патрыятычным настроі. Разьвіталіся да наступнага спатканьня за тыдзень на парахвіяльным сьвяце ў Гайлэнд Парку, на якое шчыра нас запрашалі й прысутныя адтуль прыхаджане й а. Аляксандар Яноўскі.

**Зіна Станкевіч**

# ТРЭЙЦІ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

фантазія на тэму „Перапёлачкі" (у вапрацаваньні В. Новака) з багатымі варыяцыямі на ксыляфоне з баянам, а таксама на флексатоне з баянам зачаравала слухачоў (флексатон — малы ручны інструмэнт, які складаецца з выгнутае мэталёвае пласьцінкі й двух малаточкаў, прымацаваных з абодвух бакоў да дзьвюх ручак, якія на адным канцы злучаныя разам, а другія канцы трымаюцца ў руцэ; пры сьцісканьні або адпушчаньні ручак пласьцінка то зьгінаецца то разьгінаецца ды пад ударам малаточкаў выдае розныя гукі прадоўжанага жаласьлівага характару). Валеры Новак, ксыляфаністы-віртуоз, выканаў „Перапёлачку" з асаблівым глыбокім пачуцьцём і перадачай лірычнага трагізму мэлёдыі. Тлумачыцца гэта ня толькі ягоным талентам кампазытара й выканальніка, а магчыма й тым, што гэта песьня, якую ён у маленсьцьве йшчэ навучыўся ад сваё маці, родам з Полацку (тымчасам як сын нарадзіўся ўжо ў Міргорадзе на Ўкраіне).

З тонкім лірызмам Генадзь Гуткін выканаў на баяне вязанку мэлёдыяў зь беларускага рэпэртуару „Песьняроў". У другой частцы праграмы „Віхор" правіхрыў таксама „Фэстывальны вальс", напісаны В. Новакам адмыслова для трэйцяга Беларускага Фэстывалю.

Цёпла сустрэты быў таксама дуэт скрыпка - акардыён Кацярыны Вусылька й Паўла Калісэ зь вязанкай беларускіх мэлёдыяў.

Новым сёлета было выступленьне інструмэнтальнага квартэту камэрнае музыкі „Палерма" з падборкай мэлёдыяў з опэры А. Туранкова „Кветка шчасьця". Не аспрэчваючы прыгожасьці музыкі Туранкова й музыкальных здольнасьцяў „Палерма", трэба сказаць, што камэрны жанр зь ягонай далікатнай і мясьцінамі ціхой музычнай ніткай (асабліва, калі яна даўгаватая) ня зусім упісваецца ў характар фэстывальных канцэртаў.

Цікавым і вельмі эфэктыўным было выступленьне дзьвюх дэкляматарак у сёлетнім канцэрце: Сьвятланы Зарэчнае, што прыбыла нядаўна зь Беларусі, ды харысткі й актыўнае ўдзельніцы грамадзкага жыцьця Вольгі Лукашэвіч з Кліўленду, якая даўно ўжо жыве ў Амэрыцы. Была гэта дэклямацыя-пераклік, сымбалічная сустрэча прадстаўнічак таго самага народу, разьдзеленага акіянам і палітычнай мяжой, але адзінага ў сваёй культурнай спадчыне й жаданьні свабоды.

„Замілаванасьць да роднае зямлі, — сказала з усхвалёванасьцяй і прыгожым літаратурным вымаўленьнем Сьвятлана Зарэчная, — да культурных традыцыяў свайго народу, імкненьне да свабоднага выяўленьня вызначае маладую творчую зьмену сучаснае Беларусі, адкуль некаторыя з нас — і я ў тым ліку — зусім нядаўна прыбылі. Як жаўранкі з роднага неба, сьледам за вамі, што прыбылі сюды раней — далятаюць да нас галасы маладых творцаў беларускае культуры, а сярод іх вершы таленавітае дзяўчыны з Палесься Жэні Янішчыц. Словамі вершу Жэні Янішчыц прамаўляе да нас усіх тут Беларусь у ейным змаганьні за сваю спрадвечную самабытнасьць.

Край мой сіні, казка вясновая,
Сэрцу любы і дарагі.
Як кучомкі дзядоў, зімовыя
Абкружылі цябе стагі.
Туманы наплывуць бялёсыя,
Закачаецца неба сінь —
І ўсплывуць над зялёнымі плёсамі
Жураўліныя касякі.
Праплываюць над зыркім верасам,
Над усьмешкамі і смугой.
Я ўпэўнена, хутка вернуцца
Да зялёных сваіх берагоў.
І дзядзькі, як стагі бухматыя,
Зноў гавораць: „Адлёт, глядзі..."
Край мой, песьня і мова матчына,
Ты на сьвеце такі адзін.

На словы гэтыя Вольга Лукашэвіч, стоячы з другога боку сцэны (з-за якое ў часе дэклямацыяў плылі гукі песьні „Люблю наш край"), адказвала вершам Сяргея Ясеня:

Land of forebears, of misty vision,
Ugly tyrant, and gracious song.
*Bielarus* sends to us her pilgrims
With the message our roots are strong.

Welcome sisters and welcome brothers!
Take our friendship! Give your hand!
In America freedom flowers
With a blossom from every land.

Пад узмоцненыя гукі песьні „Люблю наш край", сустрэўшыся на сярэдзіне сцэны ды ўзяўшыся за рукі, абедзьве дэкляматаркі зыйшлі са сцэны, праведзеныя шчырымі воплескамі ўзрушаных і ўдзячных суродзічаў.

Перад заканчэньнем канцэрту сп. Васіль Русак і сп-ня Надзя Кудасава перадалі старшыні арганізацыйнага фэстывальнага камітэту др. Вітаўту Кіпелю саматканую дзяружку, прысланую нядаўна зь Беларусі, у знак падзякі й прызнаньня ад супрацоўнікаў і грамадзтва за ягоную валатоўскую арганізацыйную працу, дзякуючы якой трэйці раз ужо адбылося гэтае вялікае беларуска-амэрыканскае сьвята.

Фіналам сёлетняга фэстывальнага канцэрту, пасьля масавага танцу „Пераплёт", было выкананьне ўсімі ўдзельнікамі супольна з заляй беларускага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" ды песьні „Божа, блаславі Амэрыку".

**Янка Запруднік**

# СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ МІХАСЬ МАРОЗ



Дня 14 красавіка 1979 году на 64-ым годзе жыцьця адыйшоў неспадзявана ў вечнасьць наш дарагі сябра й прыяцель Міхась Мароз.

Народжаны й узгадаваны ў сялянскай сям'і ў мястэчку Жойдзішкі на Вялейшчыне, ведамым у беларускім руху перад Другой сусьветнай вайной із свайго змаганьня за беларускую мову ў каталіцкіх сьвятынях, малады Міхась спаткаўся й супрацоўнічаў з тамашнім пробашчам ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім, які пазьней быў арыштаваны польскімі ўладамі. Міхась Мароз усёй душой уліўся ў гэтае змаганьне беларускіх сьвятароў і памагаў ім амаль праз усю сваю маладосьць.

Другая сусьветная вайна захапіла яго ў польскім войску. Папаўшы ў нямецкі палон, Міхась адразу скамунікаваўся зь Беларускім Камітэтам у Бэрліне й заснаваў у лягеры ваеннапалонных Беларускі Гурток ды памагаў сваім палонным суродзічам. Пасьля заканчэньня вайны ў 1947 годзе ажаніўся з Надзеяй Топчык і выехаў зь ёю ў Ангельшчыну. У 1948 годзе з дапамогаю іншых Беларусаў зарганізаваў у Брадфардзе акруговы Аддзел Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, будучы выбраным першым ягоным старшынём. Хата ягоная сталася месцам, дзе спатыкаліся нова прыбылыя Беларусы ў Брадфард.

У 1955 годзе з жонкай і малой дачкой Ірэнкай пераехаў у Задзіночаныя Штаты й пасяліўся ў Чыкага. Тут уступіў у лік сяброў Згуртаваньня Беларусаў у штаце Ілінойс ды прыймаў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Міхась быў працавітым і сумленным чалавекам. Моцна любіў сваю Бацькаўшчыну. Быў глыбака веручым. З Жойдзішак вынес вялікую любасьць да свайго заходня-каталіцкага абраду й вельмі шкадаваў, што не ўдалося зарганізаваць беларускай парахвіі ў гэтым абрадзе ў Чыкага.

Быў ён добрым сябрам, прыяцелем і суседам, і таму вялікая грамада Беларусаў і Амэрыканцаў разам із сям'ёй і а. Архімандрытам Уладзімерам праводзілі яго на вечны супачынак на могілкі Сьв. Вайцеха, дзе спачываюць ужо многія ягоныя суродзічы.

Малітваю „Ойча Наш" і рэлігійным гімнам „Божа, што калісь народы" разьвіталіся Беларусы із сваім дарагім сябрам.

Няхай яму будзе пухам гасьцінная амэрыканская зямля!

Нябожчык Міхась пакінуў у глыбокай жалобе жонку Надзею, дачку Ірэну й зяця Тамаша Гэрцаў.

**Антон Беленіс**

# ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ГАЙЛЭНД ПАРКУ

Сёлета 13 травеня Парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку ўрачыста адзначыла Дзень сваёй Патронкі. Урачыстую Божую Службу адправілі настаяцель Парахвіі а. Аляксандар Яноўскі, настаяцель Парахвіі Сьв. Тройцы ў Дораты пратаярэй а. Карп Стар і заступнік настаяцеля Катадральнага Сабору ў Брукліне а. Расьціслаў Войтанка. На сьвята прыбылі амаль усе парахвіяне ды зьехалася шмат гасьцей зь Нью Ёрку й ваколіцаў. Падчас Божае Службы прыгожа пяяў хор пад кіраўніцтвам сп. Барыса Данілюка.

На банкеце пасьля Божае Службы духавенства, гасьцей і ўсіх прысутных прывітаў старшыня Парахвіяльнай Рады сп. В. Лосік. Жанчынаў-матак прывітаў з нагоды Сьвята Маці сп. В. Дубяга ды запрапанаваў выпіць за іхнае здароўе тост і прапяяць ім „Дай Божа шмат год!"

Старшыня мясцовага Аддзелу БАЗА Пётра Кажура ў сваім прывітальным слове падзякаваў духавенству за прыгожую службу ды адзначыў вялікую ролю царквы ў жыцьці беларускага народу ды нашай парахвіі ў васаблівасьці. Ён прывітаў таксама прысутных старшыню Галоўнай Управы БАЗА А. Шукелайця, старшыню БІНіМ-у д-ра В. Тумаша, рэдактара газэты „Беларус" д-ра Ст. Станкевіча, рэдактара часапісу „Голас Царквы" М. Міцкевіча, нашага ведамага сьпявака П. Конюха, сп. Б. Даніловіча ды прадстаўнікоў іншых арганізацыяў.

Сп-ня З. Станкевіч гаварыла на тэму ролі маці ў узгадаваньні дзяцей і адзначыла ўвагу, прысьвечаную маці ў казанях а. Аляксандра й а. Расьціслава. Сп. Шукелайць напомніў пра часы сваіх візытаў у Жыровічах, якія былі сымбалем духовай магутнасьці Беларусі. Сп. Ул. Русак прыпомніў часы, калі ён разам із сваёй маткай з тысячамі вернікаў ішоў у Жыровічы. Іх усіх тады гасьцінна прыймалі ў прыдарожных вёсках.

Прысутныя адзначылі дзень нараджэньня сп. А. Дубягі прапяяньнем „Дай Божа шмат год!" Сп. Дубяга ўжо на працягу дзясяткаў год ахвярна дакумантуе ў сваёй мастацкай хватаграфіі жыцьцё парахвіі й усяе беларускае калёніі ў Нью Джэрзі.

На заканчэньне банкету а. К. Стар падзякаваў прысутным за іхную моцную лучнасьць зь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой ды запрасіў усіх на гэткае-ж парахвіяльнае сьвята ў Дораты.

**Р. В.**

